*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 41 (676)** **20 КАСТРЫЧНІКА 2004 г.**

## Вельмішаноўны спадар Казімір Свёнтак!




Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" мае за гонар павіншаваць Вас, Кардынала, арцыбіскупа Менска-Магілёўскага з слаўнай датай, 90-годдзем ад дня нараджэння.

Ваш жыццёвы шлях не быў усеяны ружамі. Падчас пераследу Каталіцкага касцёлу вы звездалі жахі савецкіх турмаў і сталінскіх канцлагераў. Вы пакутавалі, але ўсюды і заўсёды заставаліся верным Хрысту і Ягонаму Евангелю. Ваша цвёрдая грамадзянская пазіцыя — узор для іншых. Звязаўшы свой лёс з Беларуссю, Вы дабраславілі беларушчыну. Беларускамоўныя ксяндзы, беларуская імша з кожным годам пашыраюцца. У большасці касцёлаў краіны гучыць спрадвечнае беларускае слова. Ваш надзвычайны уклад у рэлігійную культуру заслужана адзначаны высокай узнагародай — прэміяй "Fidei testis" ("Сведка веры"), якую Вы атрымалі з рук Папы Рымскага Яна Паўла II.

Хай і надалей беражэ Вас Пан Езус, якому Вы "даручылі сваё жыццё".

З павагай

*Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.*

## ВЫДАТНЫ ВУЧОНЫ І ПЕДАГОГ

### Прафесару Івану Лепешаву - 80



23 кастрычніка спаўняецца 80 гадоў Івану Якаўлевічу Лепешаву – доктару філалагічных навук, прафесару кафедры беларускай мовы Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.

Чытачам "Нашага слова" вельмі добра знаёмае гэта прозвішча па яго шматлікіх артыкулах на старонках штотыднёвіка – заўсёды надзённых, цікавых, бескампрамісных, з відавочнай грамадзянскай пазіцыяй іх аўтара. Артыкулаў, якія і напісаны на адным дыханні, і гэтак жа чытаюцца на адным дыханні. Беручы ў рукі "Наша слова" і бачачы там публікацыю І.Я. Лепешава, не абмінеш яе абыякава і нізашто не прапусціш.

Ён прайшоў доўгі і складаны жыццёвы шлях. Як сам пісаў ён аднойчы пра сябе: "Быў на кані і пад канём, больш, канешне, пад канём".

Нарадзіўся ён на Віцебшчыне, у вёсцы Іскозы Дубровенскага раёна. Перад вайной паспеў скончыць 8 класаў, здаць экстэрнам экзамены за дзевяты клас, паступіць у двухгадовы Аршанскі настаўніцкі інстытут і закончыць першы курс.

З 1944 года – на III Беларускім фронце. Двойчы паранены. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны, медалямі "За адвагу", "За баявыя заслугі" і іншымі. У 1948 г. закончыў (на выдатна) настаўніцкі інстытут. 17 гадоў настаўнічаў спачатку ў Свіслацкай СШ, а пасля ў Шчучынскім раёне. Узнагароджаны знакам "Выдатнік народнай адукацыі". Выкладаючы ў школе беларускую і рускую мовы і літаратуры, завочна скончыў Гарадзенскі педінстытут (на выдатна), а ў 1971 г. – аспірантуру пры Менскім педінстытуце. У тыя ж гады публікаваўся амаль ва ўсіх беларускіх і некаторых маскоўскіх газетах, у некалькіх часопісах і змог апублікаваць у рэспубліканскім выдавецтве "Народная асвета" дзве кнігі, на якія было надрукавана аж 7 добрых водгукаў-рэцэнзій.

З 1971 года – у Гарадзенскім педінстытуце (пасля – універсітэце). Абараніў кандыдацкую дысертацыю, а ў 1985 г. – доктарскую.

Яго, у меру патрабавальнага і ў меру паблажлівага, паважаюць і любяць студэнты. Ён хутка знаходзіць з імі агульную мову.

Ён вельмі многа піша і друкуецца. На творчым рахунку прафесара – 404 публікацыі. Сярод іх 31 кніга. Амаль усе напісаны аднаасобна. Гэта манаграфіі, слоўнікі, навучальныя дапаможнікі. Варта сказаць, што тры ягоныя вялікія працы выйшлі ў самым галоўным нашым выдавецтве – "Беларуская Энцыклапедыя": двухтомны "Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы", "Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў", "Слоўнік беларускіх прыказак". Пра названы двухтомнік пісалі ў друку, што гэты вялізны і працаёмкі даведнік пад сілу хіба толькі цэламу акадэмічнаму калектыву.

Навуковыя і метадычныя працы Івана Якаўлевіча – гэта 540 уліковавыдавецкіх аркушаў, або 8500 старонак. Не ведаем, ці ёсць яшчэ ў каго з беларускіх навукоўцаў такі вялікі творчы багаж. На пытанне пра методыку яго навуковай працы і пра тое, як ён змог дасягнуць такіх вынікаў, І. Я. Лепешаў адказвае: "Не скажу, што гэта лёгкі занятак. Не, ён і радасны па завяршэнні, і пакутлівы, ледзь не катаржны. Напрошваецца параўнанне з катаржанінам, які дабраахвотна прыкаваў сябе да пісьмовага стала. А для мяне гэты занятак даўнымдаўно стаў арганічнай патрэбай, другой натурай. Я не магу не пісаць. Мяне як магнітам цягне да гэтага ў вольныя ад аўдыторных заняткаў гадзіны і дні. Выхадных не бывае. Каб штосьці новае сказаць у навуцы, трэба добра ведаць, што зрабілі папярэднікі. Шмат чытаю: навуковую літаратуру, мастацкія творы, часопісы, газеты. Чытаючы, нярэдка знаходжу такое, што можа спатрэбіцца ў далейшым. Увесь час раблю выпіскі з прачытанага. У маёй картатэцы каля 90000 картак. Многія з іх сталі асновай для маіх кніг і артыкулаў. Ёсць і карткі-паказальнікі – дзе што шукаць, па розных тэмах. А галоўнае – самадысцыпліна і праца, праца, штодзённая, напружаная."

Мы, былыя яго студэнты, затым аспіранты, а цяпер аступененыя універсітэцкія выкладчыкі, выказваем яму словы глыбокай удзячнасці за падтрымку і бацькоўскую апеку і адшчырага сэрца жадаем і надалей заставацца такім жа энергічным, працавітым, няўрымслівым і неспакойным.

*Марына Якалцэвіч, Ірына Хлусевіч, кандыдаты філалагічных навук.*

**Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя "Нашага слова" віншуюць сп. І. Лепешава з 80-годдзем. Мы зычым сталаму нашаму сябру плёну ў працы на карысць Бацькаўшчыны.**



Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
№ 41 (2526) Год XLIX Беласток, 10 кастрычніка 2004 г. Цана 2,00 зл.
http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl
Заява



Сябры Таварыства беларускай мовы, грамадзяне Беларусі занепакоеныя сітуацыяй, якая складваецца вакол беларускай беластоцкай газеты "Ніва".

Старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся з гэтай нагоды з лістом да амбасадара Польшчы ў Беларусі. Па ўсёй краіне ў арганізацыях ТБМ разгортваецца збор подпісаў у падтрымку газеты "Ніва". Лісты з подпісамі накіроўваюцца на адрас амбасады Польшчы ў Менску і консульства Польшчы ў Гародні.

Беларусы не разумеюць, як трактаваць націск польскіх уладаў на "Ніву". З аднаго боку Польшча - у Еўразвязе, а з другога махровая антыбеларускасць, як бы спісаная з праграм Арміі Краёвай першых пасляваенных гадоў. Ці можа гэта, як і ў Беларусі, ніяка не палітыка, а звычайныя стасункі "хозяйствующих субьектов", скажам, нашай пракуратуры і нейкай беларускай апазіцыйнай ці проста недзяржаўнай газеты.

*Яраслаў Грынкевіч.*

# ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА

*Падрыхтавала Ірына Марачкіна*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**1996 год.**

**Кастрычнік.**

У сядзібе ТБМ адбылося сумеснае паседжанне ТБШ і ТБМ. Абмяркоўваліся бліжэйшыя планы, у прыватнасці — правядзенне "круглага стала" з мэтай абмеркавання дзяржаўнай канцэпцыі рэформы агульнаадукацыйнай школы пад назвай "Перспектывы беларускага школьніцтва", а таксама вынікі збору матэрыялаў для "Белай (шэрай?) кнігі".

ТБМ і ТБШ распачалі збор подпісаў пад патрабаваннем да прэзідэнта і ўрада краіны забяспечыць грамадзянам Беларусі канстытуцыйнае права на атрыманне вышэйшай адукацыі на беларускай мове.

**12 лістапада.**

На пасяджэнні сакратарыяту ТБМ разглядаліся пытанні фінансавай дзейнасці Таварыства, збору подпісаў пад адозвамі на карысць беларускай вышэйшай школы, правядзення чарговага V з'езду ТБМ.

**27 лістапада.**

У Доме літаратара адбылося паседжанне "круглага стала" з назваю "Беларуская школа: стан і перспектывы развіцця", арганізаванага ТБМ, ТБШ і педкамісіяй Саюза пісьменнікаў. Прыняты зварот да прыхільнікаў беларушчыны краіны.

**Снежань.**

Напярэдадні Новага года адбылося паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ. Разглядаліся пытанні аб дзейнасці Таварыства ў тагачасных умовах і аб захаванні газеты "Наша слова".

**1997 год.**

**1 лютага.**

На пленарным паседжанні Рэспубліканскай рады ТБМ была засяроджана ўвага на невысокім фінансавым стане арганізацыі, прынятае рашэнне аб правядзенні чарговага V з'езду ТБМ 12 красавіка. Прыняты зварот да сяброў і прыхільнікаў Таварыства аб добраахвотных складках дзеля правядзення чарговага з'езду.

**11 сакавіка.**

На паседжанні Рэспубліканскай рады ТБМ прынятая заява да Міністэрства адукацыі Беларусі з нагоды лінгвацыду беларускай нацыі. Сфармулявана 11 патрабаванняў да Міністэрства. Выказанае спадзяванне, што да 12 сакавіка Таварыства атрымае станоўчую інфармацыю накont вырашэння ўзнятых пытанняў.

**3-9 красавіка.**

Выйшаў у свет 14 нумар "Нашага слова", пасля чаго газета перастала выдавацца з прычыны таго, што ў 1997 годзе дзяржава спыніла фінансавую падтрымку.

**12 красавіка.**

У менскім Доме літаратара прайшоў V з'езд ТБМ. З'езд прыняў адстаўку Ніла Гілевіча з пасады старшыні ТБМ і абраў новым старшынём ТБМ Генадзя Бураўкіна. Намеснікамі старшыні абраныя Алег Трусаў і Людміла Дзіцэвіч.

З'езд разгледзеў заяву рэдактара газеты "Наша слова" Эрнэста Ялугіна аб немагчымасці выдання газеты. З'езд адхіліў прапанову сябра Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслава Судніка аб часовай перадачы выдання газеты "Наша слова" ў Ліду.

**15, 22, 29 траўня.**
**5 і 12 чэрвеня.**
**25 жніўня.**
**4 верасня.**

Сябры Таварыства беларускай мовы правялі шэраг пікетаў супраць закрыцця беларускіх класаў і школ.

У пікетах узяло ўдзел больш за 300 чалавек. За час пікетавання ў шэрагі ТБМ уступіла 15 новых сяброў.

**26 верасня.**

У Менску прайшло паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ імя Ф. Скарыны. Рада заслухала справаздачу сакратарыяту ТБМ, абмеркавала моўную сітуацыю ў краіне і стан беларускага школьніцтва ў 1997 годзе. Рада прыняла пастанову па актывізацыі дзейнасці ТБМ, а таксама пастанову аб аднаўленні выдання газеты "Наша слова" з кастрычніка 1997 года. Выданне газеты часова даручана Лідскай радзе ТБМ імя Ф. Скарыны. Вырашана прызначыць в. а. рэдактара газеты Станіслава Судніка. Прапанаваны склад Рэдакцыйнай рады: Генадзь Бураўкін (старшыня), Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

**Кастрычнік.**

Кіраўніцтва журфака БДУ забараніла Менскай гарадской Радзе ТБМ імя Ф. Скарыны праводзіць у будынку журфака свае паседжанні, якія ладзіліся тут на працягу пяці з лішнім гадоў.

**1-15 лістапада.**

Аднаўлены выхад газеты "Наша слова", в. а. рэдактара - Станіслаў Суднік. Акурат праз паўгода пабачыў свет 15-ы нумар газеты, якая часова спыніла сваё існаванне ў красавіку.

**28 лістапада.**

Адбылося сумеснае паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ і ТБШ на тэму: "Беларускамоўнае навучанне: стан, праблемы, шляхі вырашэння". Прынята пастанова. З дакладам "Школьны этнацыд" выступіў Валер Палсцюк.

**Лістапад.**

Выйшаў з друку першы нумар весніка "Матчын дар" Касцюковіцкай раённай арганізацыі ТБМ, якую ўзначальвала Людміла Лечанка.

**26 снежня.**

Адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Лідскай рэгіянальнай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны, якую восем гадоў узначальваў Міхась Мельнік. Новым старшынём абраны Лявон Анацка.

**Снежань.**

У рамках выдавецкай дзейнасці ТБМ выйшла ў свет кніга-альбом з мастацкага збору Анатоля Белага "Любіць радзіму — шанаваць родную мову".

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Мовазнаўчы досвед*

# Паўтарачны – палутарны

"Матэрыял дасылаецца да рэдкалегіі... памер шрыфта – 14, міжрад-інтэрвал – палутарны. (Беларуская лінгвістыка. Выпуск 52. Мн., 2002. С.113. Патрабаванні да афармлення рукапісу").

Форма ***палутарны*** – утварэнне ад ***"палутара" (палутар-ны)***. У беларускай літаратурнай мове ўтваральнага слова ***"палутара"*** не існуе. Рускаму ***"полутора"*** адпавядаюць формы ***паўтара*** (у спалучэнні з назоўнікамі мужч. роду): *около полутора недель – каля паўтара тыдня* або ***паўтары*** (з назоўнікамі жан. роду): *около полутора тонн – каля паўтары тоны.*

Слова ***"палутарны"*** не фіксуе ніводны беларускі слоўнік. Рускаму ***полуторный*** адпавядае беларускае ***паўтарачны***. Яго падае "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы, П. Глебкі (М., 1953. С.470), а таксама ўсе яго перавыданні. Напрыклад, у трохтомавым РБС-93 (Т.2.С.671) чытаем: "Полуторный – паўтарачны; полуторная кровать – паўтарачны ложак; в полуторнам размере – у паўтарачным памеры".

Як бачым, форма ***"палутарны"*** штучная, не стасуецца з заканамернасцямі беларускай літаратурнай мовы.

# Прамінулы – прошлы

Слова ***"прошлы"*** "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.4. Мн., 1980. С.402) не тлумачыць, а фіксуе толькі наступнае: "Прошлы, -ая,-ае. У выразе: "прошлы час, гл. час". У слоўнікавым артыкуле "Час" (Т.5.Кн.2. Мн., 1984. С.303-304) знаходзім: "Даўнонімулы час – асобая форма дзеяслова прошлага часу" (Гэта пераклад рус. ***Давнопрошедшее время*** з кнігі "Словарь русского языка в четырёх домах". Изд. 2.М., 1981. С. 362).

У сучасным нацыянальным друку актыўна выкарыстоўваецца слова ***прамінулы*** (з значэннем рус. ***прошедший***). Так у Янкі Брыля чытаем: "Калі пані мае да яго ў сваім сэрцы ўспамін прамінулай дружбы, прашу захаваць яго назаўжды, бо ён быў варты гэтага" (Полымя. 2001. № 10. С.3). У артыкуле С. Андраюка "Талент глыбока беларускі" (Полымя. 2001. №2. С. 259): "Але, калі праз прызму прамінулых гадоў паглядзець, напрыклад, толькі на пасляз'ездаўскую літаратуру, узгадаць менавіта тагачасныя творы, то вельмі лёгка ўпэўніцца, што быў час выключна спрыяльны..." Або ў артыкуле знаага мовазнаўца і стыліста А. Каўруса "Разгорнем падручнік" (Полымя. 2001. №(. С. 196): "...рэальная мова прамінулага часу...".

Слова ***прамінулы*** – утварэнне з суфіксам ***–л-*** ад дзеяслова ***прамінуць*** "прайсці, мінуць (пра час, здарэнні і пад.)". Тлумачальны слоўнік беларускай мовы (Т. 4. Мн., 1980. С. 346) пацвярджае гэта і тэкстамі: "Дзень прамінуў. Ужо ў імгле стаў набліжацца вечар (Танк). Мы нават не заўважылі з табою, як прамінула наша маладосць і мы ўступілі ў сталыя гады (Глебка).

Зафіксаваў слова ***прамінулы*** і "Беларускарасійскі слоўнік" М. Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 246), праўда, трохі з іншым значэннем: "Прамінулы – давнопрошедший". Тут бачым і дзеяслоў, ад якога ўтварылася гэтае слова: "Прамінуць – миновать".

Такім чынам, апраўданым і прыдатным лінгвістычным тэрмінам, на нашу думку, трэба лічыць самабытнае спалучэнне ***прамінулы час*** (а не штучную кальку ***"прошлы час"***).

*Павел Сцяцко.*

*Дарожныя нататкі – зацёсы Міхася Тычыны*

# Вось такія мы ёсць...

Ад прыпынку "Інстытут культуры" электрычка на Барысаў адышла дакладна на раскладу. І душу хутка сагрэла абвестка аб чарговым прыпынку – на беларускай мове, на што нешматлікія пасажыры, якія ўтаропіліся вачыма ў рускамоўныя газеты, ніяк, мне здалося, не зрэагавалі. Магчыма, ужо прывыклі да таго, што мне, чалавеку з правінцыі, было прыемнай навіной. Хвілін праз дзесяць у вагон зайшлі два маладыя хлапцы з баянамі аберуч і з цалафанавай торбачкай ля пояса. Яны дружна і даволі прафесійна заспявалі нядрэнную эстрадную песню, праўда, на расейскай мове, хтосьці з пасажыраў аддзячыў ім кіданнем у сумку грашовых купюр. Я таксама дастаў з кашалька грошы і, падышоўшы да музыкаў, папрасіў праспяваць нашу, беларускую песню, якую яны ведаюць, што яны праз хвіліну і зрабілі, выканаўшы "Ой, хацела ж мяне маці..."

У сядзеўшых паблізу мяне пасажыраў прасвятлелі твары і задумлівыя вочы, у торбачку музыкаў трапіла мо з дзясятак грашовых купюр, пакуль яны не пайшлі ў суседні вагон.

За імі завітаў мужчына з кіпай рускамоўных газет дэтэктыўнага жанру, з наборам зборнікаў крыжаванак, на што ніхто з пасажыраў не зрэагаваў, як і на прапанову набыць адрыўны насценны каляндар "Садоводу" ведома ж на расейскай мове. Калі я спытаў, можа ёсць у яго хоць адзін асобнік "Народнай волі" ці каляндар "Родны край", мужчына адмоўна закруціў галавою і пайшоў далей.

Барысаў уразіў чысцінёй прывакзальнай плошчы і ўсіх вуліцаў, па якіх маршрутны аўтобус вёз мяне да сана-торыя "Беразіна" што атабарыўся на ўскраіне горада. Парадавалі прыхарошаныя (з нагоды 900-гадовага юбілею, які Барысаў адзначыў два гады таму) фасады амаль усіх ацалелых старадаўніх і новых будынкаў, шматлікія кветкавыя газоны. А вось вулічная тапаніміка на магазінах, аптэках канторах, прыватных лаўках і шапіках, кінатэатрах была амаль паўсюль расейскамоўнай. Зрэдку па доўгім шляху праз горад (кіламетраў восем, не меней) трапляліся беларускамоўныя шыльдачкі. Ды і назвы цэнтральных вуліц засталіся тымі, якія яны атрымалі яшчэ ў 20-30 гады мінулага веку – Камсамольская, Рэвалюцыйная, 1 Мая, Леніна, і нават "ІІІ Интернационал", хоць гэтае рэвалюцыйнае стварэнне бальшавікоў, што марылі аб сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі, было распушчана Леніным і Троцкім яшчэ ў 1921 годзе. Засмуціла і капітальна ўзведзеная на высокім падмурку металёвая шыльда вышынёй метраў пяць узбоч шашы, што вядзе да Барысава з боку Плешчаніц. На ён старасларянскай "вяззю" паўтараметровымі літарамі выкладзена слова "Борисов", а ніжэй - герб горада. І толькі шараговы дарожны стандартны ўказальнік на невялікім "палатне" замацаваным на двух слупках, напамінае гасцям горада, што яны у Беларусі, а не ў расейскай глыбінцы.

Дзве шыльды, адна ля шашы пры уездзе на тэрыторыю санаторыя, другая – ля прахадной, напісаны па-расейску. Ды і уся тапаніміка на дзвярах жылых карпусоў, сталовай, кіназалы, абвесткі ў вестыбюлі галоўнага корпуса таксама рускамоўныя.

Віны у гэтым новага галоўнага ўрача, які прыняў справы нядаўна, ведома, няма – ўсё тут угэтым плане засталося нязменным з часоў савецкай імперыі, калі закладваліся падмуркі будынкаў.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

# Українська мова на Білорусі

Апошнім часам якіх толькі моваў не сустрэнеш, чытаючы шыльды на розных установах.

Не кажу тутака пра расейскую, якая пачуваецца ў нас як дома.

Няспынна павялічваецца колькасць надпісаў па-ангельску, нямецку, польску. А нядаўна і ўкраінская мова, адолеўшы ўвесь беларускі абшар, дайшла да паўночных межаў нашае краіны. Адчыненае нядаўна ў Полацку прадстаўніцтва Western Union (будынак Белаграпрамбанку на пляцы Волі) змясціла над уваходам аб'яву "Грошові перекази. Найшвидший спосіб переказати гроші по всьому світу". А дзе ж беларуская мова, куды яна ідзе? Падобна, што з такой моўнай палітыкай уладаў – да забыцця і скону.

*Міхась Баўтовіч, г. Полацк.*

